Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 53 (104). Вільня, Субота 9 Ліпня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гада.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Нацыянальная перамога.

Выбары ў валасныя самаўрады вельмі зацікавіла наша сялянства. З гэтае прычыны яно масава зьвярталася да нас з рознымі запытаньнямі, як пісьменна таксама і асабіста.

Пры гэтакай аказіі мы стараліся ўясьніць пагляды нашага сялянства на нашую гаротную сучаснасьць і ўлавіць адносіны беларускіх установаў і арганізацыяў.

У рэзультаце ўсяго гэтага нам прыходзіцца радавацца, бо, можа на перакор розным уплывам на беларускае сялянства, яно па сваім паглядам і ідэалёгіі, зьяўляецца глыбока нацыянальным і трымаецца незалежніцкага грунту. Так, што можам з асаблівою адвагаю і праўдзівасьцю канстатаваць і сцьвердзіць, што незалежніцкая думка, без ніякіх арыентацыяў і ўгодаў, кінутая намі ў беларускія народныя масы, нашла сваё месца і прынялася...

Наперакор імкненьню палянафілаў стварыць адпаведныя казённыя самаўрады і на перакор „наша-праўдаўцам“ стварыць інтэрнацыянальныя, здэнацыяналізаваныя самаўрады, запраўднасьць паказала сваё. З усіх месцаў Зах. Беларусі надыходзяць весткі, што вялізарнай большасьцю праходзяць у самаўрады сьвядомыя Беларусы. А гэта ня можа быць пацехаю для буржуазна-палянафільскага кірунку і ня можа быць трыумфам для інтэрнацыяналістаў, бо там, дзе выступае сьвядомасьць сваей прыналежнасьці да нацыі, да свайго народу, ня ёсьць і ня можа быць інтэрнацыяналізм, аб якім увесь час трубіць „Наша Праўда“.

Так што з большай станоўкасьцю можам яшчэ раз адзначыць, што „Наша Пр.“ ня мае выразнага аблічча, а калі і мае, дык хавае яго. Для прыкладу возьмем хоцьбы артыкулы „Нашае Праўды“ з № 20 „Да выбараў у гмінах“ і ў апошнім нумары „І нас разбудзілі“.

У першым артыкуле мы чытаем, што ня трэба выступаць на выбарах нацыянальным фронтам, а трэба трымацца адзінага фронту працоўных, знача, што можна выбіраць і Паляка, калі ён толькі працуе.

Наперакор сваім заклікам, у артыкуле „І нас разбудзілі“ пішучы аб тым, што паўсюдна ўзялі перавагу сьведамыя Беларусы ў сваей нацыянальнай прыналежнасьці „Наша Праўда“ маючы дадзеныя, што беларускае сялянства пашло нацыянальным фронтам і гэтым перамагло, — ізноў хоча вінаваціць у гэным сялянскіх паслоў. Гэта нас бязумоўна вельмі радуе, бо вінавачаньні ў тым, што заклікі сялянскіх паслоў да выступленьня на выбарах нацыянальным фронтам, а як вынік з гэтага і перамога, ня можа кампрамітаваць іх, ня гледзячы на ўсе стараньні і выбрыкі „Нашае Праўды“.

Разбіваць усякую ўгоду і згоду з Палякамі, якіх радзяць нам трымацца кіраўнікі „Нашае Праўды“, пад шырокім капялюшом „працоўнасьці“, нас пабуджаюць вось якія матывы.

Перадусім мы глыбока пераканаты фактамі, што нават сярод найболей здэнацыяналізаванае часткі польскага грамадзянства—камуністых, захавалася рыска шавінізму. Як факт праўдзівасьці гэтага можа служыць падзел камуністых на польскіх і заходнікаў-Беларусаў.

Самое-ж слова „працоўнасьць“ мы разумеем гэтак, што кожны чалавек зьяўляецца працоўным, хто сваімі ўласнымі рукамі дабывае сабе кавалак хлеба. Гэтая тэза бязумоўна верная. Калі трымацца гэтага, як гэта ўсюды і заўсёды трубіць „Наша Пр.“, дык няма чаго нам адхіляцца ад асаднікаў, бо хіба ўсім ведама, што і асаднікі і калёністыя таксама як і ўсякі іншы чалавек працуюць.

Дык вось знача наша перакананьне ў тым, што Палякі бяз розніцы іх клясавай прыналежнасьці зьяўляюцца заядлымі шавіністымі і што агульная тэза аб працоўнасьці ня можа быць сынтэзаю якое-колечы ідэалёгіі, бо працоўны і той, хто мае 30 і той, хто мае 2 дзесяціны зямлі, мы і займаем дзеля гэтага самага становішча нацыянальнае і незалежніцкае без ніякае лучнасьці з Палякамі, арганізуючы клясы беларускага народу, інтарэсы якіх падходзяць пад нашу праграму.

Дык вось знача, выбары да валасных самаўрадаў яскрава паказалі, што беларускае сялянства перамагло на сваім нацыянальным фронце, што як правыя з пад „Беларускага Слова“ так і левыя з пад „Нашае Праўды“ палянафілы праваліліся.

Нацыянальная перамога, гэта—Наша Ідэя, а зьдзейсьненьню яе на самаўрадавай пазыцыі нас бязумоўна вельмі радуе.

Няхай жыве Беларускі Народ!

## З СОЙМУ.

### Самаўрадавыя ўставы на паседжаньнях Сойму.

На паседжаньнях Сойму, якія адбываюцца гэтымі днямі разглядаюцца праекты самаўрадавых уставаў. Аб гэтых праектах ужо многа пісалася, так што цяпер толькі трэба зазначыць, што ня гледзячы на пратэсты з боку нацыянальных меншасьцяў, польскія партыі складаючы большасьць Сойму, разыходзячыся ў паглядах на іншыя справы, у адносінах да нацыянальных меншасьцяў глядзяць аднолькава: трэба задушыць. І хадэцыя і эндэцыя і хлопы і сацыялісты ўсе як адзін прыхіляюцца да праектаў, якія, калі стануць законамі, пазбавяць нацыянальныя меншасьці самаўрадаў.

Робіцца ўсё гэта пад клічамі: абароны польскасьці на Крэсах.

Прамову беларускага пасла Ярэміча падамо ў наступным нумары.

### У юрыдычнай камісіі Сойму.

На паседжаньні юрыдычнае камісіі Сойму 6 г. ліпеня разглядаліся прэсавыя дэкрэты п. Прэзыдэнта.

Рэфэраваў дэкрэты пасол Лібэрман (ППС). У сваім дакладзе пас. Лібэрман даў агульны агляд абодвух дэкрэтаў аб прэсе ў Польшчы.

Дзеля таго, што дэкрэт аб прэсавым праве дапушчае эвэнтуальныя зьмены і вымагае больш часу, дык абмяжавана сёньня разглядаць толькі адзін дэкрэт аб карах за пашырэньне непраўдзівых вестак і за зьнявагі. Дэкрэт гэты па думцы дакладчыка, занадта многа мае ў сабе паліцэйскага духу, адзначаецца вялікаю жорсткасьцю караў і што найгорш, не адпавядае патрэбам дзяржавы і грамадзянства, бо існуючае заканадаўства ў поўнай меры выяўляюць правілы бязьпечнасьці.

Зьверх таго дэкрэт вельмі недарэчна зрэдагаваны і не прытасаваны да прэсавага дэкрэту, бо абодва дэкрэты некаторыя справы разглядаюць адменна, што ўнясе ў справы толькі супярэчнасьці.

У асаблівасьці дакладчык крытыкуе пастанаўленьне, адносна захаваньня пашаны Прэзыдэнта. Згодна таго пастанаўленьня ўсякая малейшая крытыка адносна асобы Прэзыдэнта можа лічыцца абразьліваю, а цераз гэта робіцца немагчымым абгаварываньне працы Прэзыдэнта.

Па заканчэньні дыскусіі камісія ў прысутнасьці 22 паслоў аднагалосна пастанавіла: адкінуць новы дэкрэт аб карах за пашырэньне непраўдзівых вестак і зьнявагах. Так што магчыма, што астануцца адносна гэтага правілы, якія існавалі да выданьня дэкрэту.

### У соймавых падкамісіях.

Юрыдычная соймавая падкамісія на паседжаньні 7 г. ліпня разглядала праект ўставы, якая павінна замяніць распараджэньне п. Прэзыдэнта аб прэсавым праве.

Бяручы за аснову праекту ўспомненае распараджэньне падкамісія разгледзіла першую яго частку, якая складаецца з 33-х артыкулаў. У канстытуцыйнай падкамісіі разглядаўся праект аб зьмене выбарнага закону.

Падкамісія прыняла праект, якім паменшыла лічбу ман атаў прадстаўнікоў да Сойму і Сэнату ад Усходняй Галіцыі, Палесься і Наваградзкага ваяводзтва.

Прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў на знак пратэсту проці гэтакіх законаў, якія яўна ігнаруюць правы нацыянальных меншасьцяў на паседжаньні падкамісіі не зьяўляліся.

На паседжаньні падкамісіі былі прадстаўнікі як правіцовых, так і лявіцовых польскіх соймавых групаў.

І як відаць, дык усе яны аднаго поля ягадкі... Усе годзяцца, калі трэба абмежаваць правы грамадзянам няпольскай нацыянальнасьці...

СЯЛЯНЕ! Аб нарушэньні закону пры выбарах падавайце пратэсты!

# На ваенную ноту.

Нямецкі ваенны спэцыяліст ген.-маёр фон-Франкенбэрг зьмясьціў у нямецкай газеце „Дэйтшэ Альгэм Цэйт“ некалькі артыкулаў на ваенную тэму.

У гэтых артыкулах нямецкага ваеннага спэцыяліста, як відаць вельмі кампэтэнтнага у ваенных справах, зьяўляюцца вялікія недагляды сучаснасьці, бо судзячы аб ваенных справах, ён зусім ня браў пад увагу палітыку.

Калі-б верыць артыкулам фон-Фанкенбэрга, дык вайна павінна зараз-жа распачацца паміж Англіяй і Саветамі. У яго артыкулах ужо вызначана і месца ваенных апэрацыяў і зробляны параўнаньні сілаў і выстаўлена тэза, што толькі рашучае дашчэнтнае зьнішчэньне (каго?) паложыць канчатак англа-савецкай спрэчцы.

З усягс вышэй праведзенага заслугоўвае на веру, толькі апошняе.

Бо такі праўда, што толькі тагды концца англа-савецкае непаразуменьне, калі адзін з гэтых арганізмаў будзе так ці гэтак ладжаны з аблічча нашае плянеты. Але, што датычацца пляну, які па думцы немца Англія ужо ўстанавіла, дык гэтага нельга прызнаць рацыянальным.

Адкідаючы вывады нямецкага спэцыяліста мы пастараемся абрысаваць справу з нашага пункту гледжаньня. Можа нам лепей удасца гэта зрабіць дзеля таго, што стаімо бліжэй Саветаў.

З усіх заяваў савецкіх верхаводаў, як ваенных таксама і палітычных можна заўважыць адно: пагражаючы вайною Саветы баяцца яе. Я наўмысьня не кажу, што ня хочуць, бо савецкая камуністычная ўлада, якая мае сваім спэцыяльным заданьнем збурыць сучасны лад і парадак на сьвеце і астанавіць адзіную камуністычную дзяржаву, ня можа не хацець таго, што зьяўляецца сродкам зьдзейсьненьня яе заданьняў-вийны.

Але-ж вайны Саветы баяцца, бо ня маюць у сваім распараджэньні пэўных сродкаў, якія-бы забясьцечылі ім перамогу.

Ёсьць у іх дзьве правізарычныя рэчы: чырвоная армія і сусьветны пралетарыят. Бяда толькі ў тым, што чырвоная армія — слабая, а сусьветны пралетарыят—ня ўвесь і ня ў гэткай меры як трэба, прыхіляецца да першае рэспублікі пад дыктатурай камуністых.

Дык вось знача, дзеля гэтага Саветы ня лічачы на свае сілы ў атдкрытым баю, вядуць працу іншага характару, а іменна: яны падбураюць наколькі і дзе можна і даюць сродкі пралетарыяту кожнае дзяржавы, каб пралетарыят сам, сваімі рукамі, сваімі сіламі ламаў дасюляшнюю дзяржаўнасьць і будаваў новую дзяржаўнасьць пад уладаю камуністых.

Але-ж за дзесяць гадоў працы ў гэтым кірунку, нічога рэальнага нідзе ня відаць. У сваім часе былі вялікія шансы ў Кітаі, аднак-жа цяпер ужо сталася зусім іначай. Думаючы выкарыстаць кітайцаў расейскія камуністыя давалі дапамогу Чанг-Кай-Шэку, а Шэк з ахвотаю браў усё, што толькі давалася. Але-ж калі пачуўся, што можа трываць без камуністых, дык даўшы ім па хвасьце парваў добрыя адносіны з камуністымі і пачаў тасаваць да іх жорсткія рэпрэсіі. Цяпер ужо аб карысьці камуністым ад Чанг-Кай-Шэка няма што гаварыць. Чанг-Кай-Шэк стаўшы амаль-што выключным гаспадаром Кітаю трымаецца абсалютнай сувэрэннасьці (незалежнасьці) Кітаю і вядзе нацыянальную палітыку.

# З жыцьця Польшчы.

### Выбары ў самаўрады.

Яя відаць са справаздачаў зьмешчаных у „Robotniku“, дык у дзевяці павятовых местах, большасьцю прашлі на выбарах да меставых радаў—прадстаўнікі правіцовых партыяў. Вялікі пасьпех мае таксама і Пэпэс. Нават у тых местах дзе ў старых радах зусім ня мелі прадстаўнікоў, дык цяпер здабылі па некалькі мандатаў. З усяго вышэй падапага відаць, што шавінізм і патрыятызм глыбока ўкараніліся і ахапілі польскае грамадзянства: Разумеецца, што пры гэтакім палажэньні ня можа быць і рэчы аб тым, каб што-колечы стала нам лягчэй.

Спадзявацца на чыю-небудзь дапамогу ня прыходзіцца, бо тыя з кім працуе „Наша Праўда“ акурат ніякае вагі ў палітычным жыцьці ня маюць.

### Выбары прэзыдэнта на места Варшаву.

У Варшаве прэзыдэнтам места выбралі інж. Зыгмунта Сломіньскага—эндэка.

Галасавалі за яго эндэкі і гэтак званыя „пілсудчыкі“.

Так што пэпэсы ў выбарах прэзыдэнта на места Варшаву праваліліся, а праваліўшыся адбіваюцца нападкамі на пілсудчыкаў, якія пагадзіліся з эндэкамі.

Як ведама эндэкі знаходзяцца ў апазіцыі да ўраду марш. Пілсудскага, бо гэта іх урад змагаўся з Пілсудскім.

Пасьля перавароту гэта першае здарэньне, згоднага выступленьня эндэкаў і пілсудчыкаў, Дасьць Бог справа наладзіцца і той хто ўчора біўся сёньня пакахаецца і пацалуецца. Пачатак ужо зроблены!... Але хто верне жыцьцё тым жаўнераў, якія леглі ў магілу за нейкую „санацыю“?

### Трывога аб упадку польскасьці на Валыні.

На рукі віцэ-прэм'ера Рады Міністраў Бартля Палякі з Валыні падалі мэмарыял, сцьвярджаючы памяншэньне польскага стану ўладаньня на карысьць Украінцаў.

Вялікая польская зямельная ўласнасьць, выносіла ў 1914 г. каля 700.000 гэктараў, а цяпер панізілася да 400.000 гэк., у працягу 3-х гадоў усьцяж пераходзіць да Украінцаў.

Даўнейшыя польскія калёністыя маюць у сваім уладаньні толькі 200.000 гэкт. зямлі, цывільныя асаднікі 200.000 і вайсковыя — 50.000 гэктараў.

Апошняе распараджэньне міністра зямельнае рэформы, якое выключае магчымасьць прадажы зямлі калёністым з-за межаў Валыні, прычынілася да таго, што зямля пераходзіць ад польскіх абшарнікаў—украінскаму сялянству.

Сярэдняе і пачаткавае польскае школьніцтва ідзе да ўпадку. Міністэрства асьветы выдала загад выдаваць безтэрміновыя канцэсіі на жыдоўскія, беларускія і ўкраінскія прыватныя гімназіі. Аднак-жа нядаўна на польскую гімназію ў Корцы канцэсія ня выдана.

У двухмоўных школах уводзіцца навучаньне ўкраінскае мовы, ня гэтак, як было дагэтуль, ад другога году навукі, але-ж ад першага, а навучаньне польскае мовы распачынаецца з другога году.

У далейшым працягу мэмарыялу робіцца націск на тое, што прыймаюцца вучыцелі Украінцы на службу—звольненыя за розныя правіннасьці. Ставіцца на від і ў віну ўраду прыхільныя адносіны да намераў украінскае праваслаўнае царквы.

Усё-ж такі характэрныя трывогі!... Вывадаў з гэтага здаецца рабіць ня трэба. Мэмарыял сам за сябе ясна гаворыць.

### Скандал у судзе.

У Галіцыі ў Тарноўскім акружным судзе, судзьдзя Чаплінскі разглядаў разводную справу М. Лазарскага і яго жонкі Караліны. У часе разгляду гэтае справы Лазарскі раптоўна вынуў з кішэні рэвольвэр, стэрарызаваў судзьдзю і ўсіх прысутных і змусіў судзьдзю ўзяць ад жонкі Лазарскага пад прысягаю забавязаньне ў тым, што яна зьнімае сваю сэпарацыйную жалабу. Неяк удалося судзьдзі ўцячы і паклікаць паліцыю. Паліцыя Лазарскага закула і адправіла яго ў вастрог. Рэвольвэр Лазарскі выкінуў за вакно, які быў не набіты. У месьце здарэньне гэтае зрабіла вялікае ўражаньне.

Як відаць, дык жонка Лазарскага развялася з ім і трэбавала ад быўшага мужа нагароды.

Здарэньне, калі ня важнае, дык усё-ж такі цікавае!...

---

Дзеля гэтага Саветы паміма жаданьня ня могуць распачаць вайны і пэўна, у бліжэйшым часе ня будуць распачынаць яе, усімі способамі стараючыся ўхіліцца ад аружнага разьвязаньня сваіх міжнародных справаў.

Ня ў лепшым палажэньні знаходзіцца і Англія. Англія так сама як і Саветы хоць і хоча вайны, каб згладзіць Саветы, але-ж так сама, як і Саветы—баіцца вайны.

Бо, што праўда, вайна можа прычыніцца да поўнага ці прынамсі да частковага развалу Англіі. Перадусім ангельская слабасьць адчуваецца ў Азіі, дзе калі толькі ўзяць пад увагу Індыю, дык праявяцца сумныя для Англіі пэрспэктывы. Індыя таксама як і Кітай, дзеля сваей карысці, можа выкарыстаць савецкую дапамогу, каб вызваліцца ад Англіі. І вось гэтая пагроза, якая вісіць над Англіяй, як Дамоклаў меч, устрымлівае яе ад рашучага ваеннага выступленьня проці Саветаў.

Аднак-жа Англія, па сваей адвечнай традыцыі чужымі рукамі жар заграбаць, пакладае ўсе высілкі, каб нацкаваць каго-колечы на Саветы. На яе жаль няма ахвотнікаў.

Як бачым, дык палітычныя абставіны, як Саветаў, такі Англіі не пазваляюць ваяваць. А дзеля гэтага вайны, гэтакай вайны, якая бы зьяўлялася рэзультатам чые-колечы добрае волі,—у бліжэйшым часе чакаць ня прыходзіцца.

Як відаць ужо з гэтага нарысу, дык выбуховага матэрыялу ёсьць аж за надта, толькі падвясьці серніка і... пажар. Але-ж зьяўляюцца вельмі слабымі рукі, дзяржаўных кіраўнікоў, як Англіі і Саветаў, таксама і іншых дзяржаваў, каб гэты пажар распаліць.

Спыніцца на жахлівых рэзультатах вайны і на індыйскім пытаны, сёньня не дазваляе нам размер нашае газэты. Пастараемся зрабіць гэта іншым разам.

Яснавід.

---

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

---

# Папараць-Кветкі.

Пры вялікай трактовай дарозе разлёгся маёнтак Радзецк пана Скубіцкага. Сад з панскім палацам і гаспадарскія будынкі аддзелены дарогаю, ад чваракоў, дзе жывуць парабкоўскія сем'і. Гэта добра, бо неяк дзеля гэтага парабкі час адчасу ўхіляюцца ад панскага вока. Бо як волава панскае вока; цяжка і смутна насіць яго ўзрок!

Дык і ня дзіва, што кожны парабак, падобны таму, як арыштант аб свабодзе, нявольнік аб вольнасьці, а галодны аб хлебе, толькі і думае і латуціць аб сваім уласным, хоць самым маленькім варштаце працы.

Разумеецца, што і радзецкія парабкі не рабілі выняткаў з пад гэтага агульнага закону, яны таксама як і іншыя іх пабратымцы жылі лятункамі і надзеяй, што прыдзе час, настане пара скінуць панскае ярмо, што будзе сьвята і на іх вуліцы, калі яны вольнымі грудзьмі ўздыхнуць шырока і прывольна з свабоднымі людзьмі.

Асабліва жывымі і зыркімі марамі жывуць гэтакія думкі сярод парабкоўскае моладзі. Моладзь разумее, што яе жыцьцё на перадзі, а дзеля гэтага сьвядомасьць таго, што яны быццам асуджаны заўсёды быць пад цяжкім панскім вокам, быць ў эканамічнай няволі гаспадара — як нейкае страхацьцё пужае яе і ўласна кліча шукаць ратунку ад гэтае нядолі. Гэта добра, бо першы ратунак ў нядолі сьвядомасьць свайго палажэньня. Сьвядомасьць і ўяўленьне свайго становішча, гэта не саломінка, а бераг ратунку. Гэта не пустая тэза, а істотная запраўднасьць!...

Халодная і сьцюдзёная вясна сёлета. Доўга не давала моладзі вольнасьці свабодна карыстацца прыродаю вечарамі, пасьля працоўнага дня. Доўга не магла моладзь на чыстым паветры пад шырокім небам праводзіць зборыскаў, дзе бязтурботнаю гутаркаю, а часта вясёлаю песьняю можна забыцца аб вечна не пакідаючых думках... аб вечных турботах за будучыну.

Але нарэшце перамог Дажбог сьцюжу і завітала і расплылася па нашых сялібах і палёх і нашых пушчах і лясох цяплыня. Разлілася і абласкала і сагрэла ўсё і ўсіх. А калі так, дык не абмінула яна і Радзецка, дзе пад адным дахам біліся тры юнацкія сэрцы, поўныя жыцьцьця і любасьці да яго...

Штодзеннае спатканьне Міхася, Марылі, і Ганулі гэтак зблiжала іх паміж сабою, што тварылася і выраблялася нейкая агульная, супольная псыхіка, аднолькавае разуменьне ўсяго што здаралася бачыць, аднолькавыя пагляды на ўсё тое, што акружала іх. Усіх іх аднолькавым цяжарам дабівала і мучыла панскае вока і поўная залежнасьць ад яго ласкі і міласьці. І часта задаваліся яны пытаньнем: чаму гэта Бог гэтакі нядобры для іх, што ня даўшы ім нічога, апрача жыцьця, змусіў працаваць для пяна Скубіцкага, якога быццам выбраў на тое, каб ён бяспечна зьядаў іх цяжкую працу? І можа доўга яшчэ аставалася-б гэтае вялікае пытаньне без выясьненьня калі-б не Папараць-Кветка... А яна, і толькі яна памагла ім зразумець нешта новае ня ведамае ім дагэтуль. Папараць-Кветка навучыла іх, што рашаючую ролю ў чалавечым жыцьці іграе, змаганьне і барацьба за свае правы і месца пад сонцам, за лепшую долю... Што шчасьце нікому ніхто не дае і даць ня можа, што шчасьце здабываецца і творыцца самым чалавекам.

У тым самым маёнтку, знача ў Радзецку служыў таксама, як і рэшта работнікаў Даніла фурман у пана Скубіцкага. За гэта яго ўжо называлі панскім падлізнікам. Служыў Даніла ў Радзецку толькі з 1 красавіка.

Блізасьць Данілы да пана-гаспадара аддаляла парабкоў ад яго, але сэрца Данілы было разам з імі. Ён заўсёды стараўся выказаць і выявіць свае пачуцьцё, толькі доўга ня меў магчымасьці на гэта.

У буднішнія дні, калі ўсе жыхары маёнтку працавалі, дык Данілу прыходзілася быць наглядчыкам над работнікамі... Здаралася часамі змушаць работнікаў да інтэнсыўнае працы,

### Справа гэн. Жымерскага.

Распачаўся разглад судовае справы гэн. Жымерскага. Акт абвінавачаньня са зьместам 112 старонак прадбачаць праступкі ў тым, што гэнэрал Жымерскі будучы начальнікам дэпартамэнту ў міністэрстве вайсковых справаў, робячы ўмовы на закупку розных прыналежнасьцей для арміі махлярствам нажываўся і за рахунак дзяржавы даваў магчымасьць багацець фірмам, якія мелі з ім сувязь.

Цераз гэтакую праступную трату грошай г. зв. Банк Аб'яднаных коопэратываў рабіў вялікія грашавыя абароты, маючы ўласнага капіталу толькі 27 зл. 77 гр. Наагул гэн. Жымерскі зрабіў вялікую шкоду польскай дзяржаве. Вінаваціцца ён па 5 і 78 арт. кад. карнага. Пагражае яму кара 8 гадоў вастрогу і пазбаўленьне правоў.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

## Кітайскія справы.

Дыктатар паўночнага Кітаю Чанг-Тсо-Лін зьвярнуўся да губэрнатара правінцыі Шансі з просьбаю быць пасярэднікам у перагаворах з Чанг-Кай-Шэкам. Губэрнатар Шансі паведаміў Чанг-Тсо-Ліна, што Чанг-Кай-Шэк ня прыняў яго пасла.

Наступленьне паўднёвай арміі ідзе далей. Армія Чанг-Кай-Шэка ў правінцыі Шансі асягнула гэткія пасьпехі, што камандзеры палкоў зьвярнуліся да галоўнага камандзера з прапановаю распачаць наступленьне на Пэкін. Але-ж Чанг-Кай-Шэк тымчасам устрымліваецца ад гэтага, хочучы выясьніць аканчальна адносіны да ханькоўскага ўраду і да ген. Фэнга.

А вось красачка з адносін паміж нанкінскім урадам Чанг-Кай-Шэка і камунізуючым ханькоўскім урадам. 5-га ліпеня закончыўся 4-ый зьезд кітайскіх прафэсыянальных саюзаў. Прадстаўнік савецкае дэлегацыі Буднік здаў зьезду ад імя арганізаваных работнікаў Савецкай Расеі сьцяг.

Зьезду былі даручаны сьцягі ад дэлегата явайскіх прафэсыянальных саюзаў Аліміна—ад імя канфэрэнцыі саюзаў Спакойнага акіяну.

Зьезд прыняў пастанову зьвярнуцца да Цэнтральнага Камітэту з дамаганьнем адправіць карную экспэдыцыю проці Чанг-Кай-Шэка.

Далей быў прыняты заклік да работнікаў усяго сьвету аб адзіным фронце барацьбы з рэакцыяй усяго сьвету.

Але-ж Чанг-Кай-Шэк, як відаць, дык не баіцца гэтых пагрозаў, бо ў гутарцы з карэспандэнтамі заявіў, што дарадчык ханькоўскага ўраду расейскі бальшавік Барадзін жывым з Кітаю ня выйдзе, бо яго эгаістычная і прадажніцкая праца прычыніла кітайскай народнай справе вялізарную шкоду.

Аднак-жа ён Чанг-Кай-Шэк ня хоча разрыву з маскоўскім урадам, бо дагэтуль увесь час маскоўскі ўрад па прыяцельску адносіцца да Кітаю. Але-ж, заявіў далей Чанг-Кай-Шэк, калі маскоўскі ўрад будзе прысылаць сваіх агентаў у Кітай у мэтах тварыць нялад у радох Куомінтангу, дык кітайскі народны ўрад з бальшавікамі з Крэмлю будзе абходзіцца таксама, як і з іншымі правакатарамі.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Радавы Саюз.

Сярод верхаводаў Савецкага саюзу не сьціхае трывога за бясьпечнасьць ад вайны. Некатарыя цэнтральныя кіраўнікі раз'яжджаюць па ўсей тэрыторыі Сав. Саюзу і гавораць прамовы. Усе на адну тэму і адным тонам.

„Мы ня хочам вайны, але калі прыдзецца ваяваць, дык пераможам любога ворага. Але мы ня хочам вайны".

Ваенная гарučка трывае ўвесь час, а разам з тым разпальвае гэтую гарычку і ўнутрэньні нялад у камуністычнай партыі, а таксама, часьцей сталі здарацца напады і замахі і наагул антысавецкія выступленьні. Чырвоны тэрор ніяк нешта нічога не памагае.

### Англія.

Ангельская палата лёрдаў прыняла ў другім чытаньні 152 галасамі проці 20 закон аб трэд-юніонах, гэта той закон, якімі значна абразваюцца работніцкія правы і роля прафэсыянальных саюзаў у работніцкім руху.

Работніцкія пратэсты ня маюць ніякага пасьпеху. Як відаць дык парляманцкія палаты ня лічацца з работнікамі.

### Італія.

Орган фашыстоўскай партыі „Фагліо Ордіні" абвяшчае, што ўсіх фашыстаў ёсьць у Італіі 960500 мужчын і 70081 жанчына.

А калі гэтак дык знача, 1 чалавек кіруе жыцьцём і парадкуе над 30 чалавекамі ў Італіі...

### Амэрыка.

Вашынгтонскі Геогарафічны Інстытут афіцыяльна ўстанавіў, што пры пералёце цераз Атлянтыцкі акіян лётнік Ліндбэрг пераляцеў 3610 міль, Чэмберлэн — 3905 і Бірд — 3447.

### Турцыя.

У Турцыі да нядаўна быў гэтакі закон, што жанчыны ня мелі ніякіх правоў. Мужчына мог набраць сабе аж сем жонак і трымаць іх у гарэме амаль што як нявольніц. Турэцкія жанчыны згодна магамэтанскага закону заўсёды хадзілі з закрытым тварам і наагул многа непрыемнасьці дазнавала турэцкая жанчына, многа недарэчнасьцяў зьвязвала яе жыцьцё. Пасьля вайны, калі Турцыя скінула султана (цара) і выгнала з краю Каліфа (галоўнага духоўніка), дык стала рэспубліка, а дзеля гэтага стала магчымым рэфармаваць жыцьцё Туркаў. Разам з іншымі рэформамі, вельмі значна зрэфармавана і жаночае права. Скасавана многажэнства і гарэмы, адменена забаўязаньне закрываньне жанчына твару і г. д. Так што цяпер турак можа мець замест сямі, толькі адну жонку, а калі хоча мець другую, дык трэба прасіць спэцыяльны дазвол на гэта. Больш як дзьве жонкі пад ніякімі варункамі мець нельга.

Пасьля гэтакага рэфармаваньня жаночага права склаўся жаночы саюз, які павёў палітычную працу сярод турчанак.

Гэтымі днямі саюз зьвярнуўся да ўраду з дамаганьнем прадстаўленьня права жанчынам браць удзел у галасаваньні пры выбарах да самаўрадаў і парляманту.

Урад гэтага дамаганьня не прыняў, дзеля таго, што лічыць, быццам турэцкая жанчына яшчэ палітычна не ўзгадавана.

## НАВІНЫ.

**— У сувязі з арыштамі.** У сувязі з апошнімі арыштамі Беларусаў у Вільні, некатарыя заграніčныя газэты зьмясьцілі весткі з Варшавы, быццам арыштаваныя Беларусы гатовілі напад на Прэзыдэнта Масьціцкага, які з прычыны вострабрамскіх урачыстасьцяў прыяжджаў ў Вільню, ды нават быццам пры арыштах знойдзены бомбы.

Ілжывасьць гэтага найлепей выясьнілася тым, што ўсе арыштаваныя звольнены з пад арышту разам з „усімі матэрыяламі".

Паведамляючы аб гэтым „Наша Праўда", якая, як законная апякунка ідэалёгіі бышае Грамады дыплёматычна замаўчала аб адным дужа пікантным зьявішчы. Як пісалі віленскія газэты, дык М. Косьцевіч, супрацоўнік казённае газэты „Беларускі Дзень", арыштаваны быў у рэдакцыі часопісі „Маланка", знача гумарыстычным асколку „Нашае Праўды", дзе, як відаць, гр. Косьцевіч „канфэраваў". Нас гэтае мала абходзіць, толькі цікава адзначыць, што прыпісваючы нам супрацоўніцтва з паленафіламі не падаючы ніякага факту і робячы фактычна ў асобе сваіх супрацоўнікаў „канфэрэнцыі" з палянафіламі, „Наша Праўда" выразна паказала сваё неэтычнае аблічча, якое брэша, маніць і не чырванее ад сораму.

Іначай нельга назваць таго, хто бяз прычыны робіць іншым наганы ў тым, што фактычна творыць сам.

**— Беларускі тэатр.** Беларускі Народны Тэатр гэтымі днямі ладзіў спэктакль у Лебедзеве, а сёньня і заўтра мае адбыцца прадстаўленьне ў Маладэчне.

Ёсьць весткі, што тэатр на правінцыі мае вялікі пасьпех. Усюды спатыкаюць артыстаў з вялікім зацікаўленьнем і вельмі прыхільна.

Падносяць артыстам кветкі і гасьцінцы, заклікаюць у госьці і г. д.

**— Канфіската.** Гэтымі днямі ўлады канфіскавалі выдрукаваную п'есу „І нас разбудзілі..."

**— Асуд Беларуса.** Віленскі акружны суд на выезднай сэсіі ў Глыбокім асудзіў на тры гады цяжкага вастрогу Архіпа Цяліцу Сэкрэтара гуртка б. Грамады ў вёсцы Сьценцы, Дзісьненскага павету.

Вінаваціўся Цяліца за процідзяржаўную прамову на арганізацыйным сабраньні.

### Чэхаславакія.

З прычыны дня прысьвечанага памяці Яну Гусу спэцыяльны камітэт паступовых элемэнтаў арганізаваў урачыстае сьвяткаваньне. У гэтай урачыстасьці ўзялі ўдзел прадстаўнікі аб'яднаньня г. зв. чэскіх братоў і чэскага народнага касьцёлу. Сярод прысутных можна было заўважыць міністраў: Бэнэша, Наймана і Пэроку.

### Розныя весткі.

У Нямеччыне ў заходняй яе частцы выпаў сьнег і пакрыў зямлю ў некаторых мясцовасьцях на два цэнтымэтры.

У Югаславіі пануюць страшэнныя ўпалы. Тэмпэратура павышана да 40 градусаў гарачыні.

У Амэрыцы праектуецца пералёт на самалёце цераз Спакойны акіян з Сан-Франціска да Токіо, сталіцы Японіі.

---

а гэта ня надта падабалася ім. Разумеў гэта і сам Даніла... Але-ж нічога не парадзіш—думаў Даніла—проці законаў гэтага сьвету, паводле якіх ён стаўся бічом у руках дужага пана Скубіцкага. Збаўленьня ад гэтакага свайго становішча ўжо даўна шукаў Даніла...

І хоць ня мог вызваліцца ад панскае службы, бо ня меў іншае магчымасьці істнаваньня, але-ж дзякуючы гэтаму шуканьню Даніла даведаўся шмат чаго... А даведаўшыся стараўся падзяліць сваю веду з другімі, каб і другія разам з ім шукалі дарогі да новага жыцьця.

Паміж героямі майго апавяданьня Міхасем і Марыляю звычайныя добрыя адносіны ўжо даўно былі ў архіве забыцьця... Лучыла іх Яго вялікасьць каханьне,—уладнае пачуцьцё проці якога няма лёгічнага разважаньня. Што яму да таго, што Міхась і Марыля панскія служакі, што трэба ім перадусім забясьпечыць матэрыяльную старану жыцьця... Яно ўладна і праўна гаворa таму і другому: кахай, і ўхіліцца ад яго прыказу—нельга.

Дык і люба было ім праводзіць вольныя часіны разам... Дык і часта хадзілі яны пад возера і там перад люстэркавай гладкасьцю вазёрнае вады дзяліліся сваімі перажыткамі і будавалі пляны на далейшы працяг свайго жыцьцёвага часу. Сястра Марылі Ганулля іншы раз была з імі, да якое вялікае пачуцьцё радзіла прыхільнасьць у сэрцы Данілы і клікала пасьвяціць сябе толькі ёй... Толькі ня ведаў Даніла, як зрабіць гэта, бо Ганулька ня верыла яму, надта-ж вялікую рожніцу паміж сабою і Данілам бачыла яна. Ільлюзія абманвала яе.

Але нарэшце шчырасьць Данілы перамагла і з таго часу калі сталася гэта, ужо дзьве маладыя пары, часта адбівала возера ў сваей вадзе. А тым часам, ці праўдзівей, тым першым момантам быў вечар пад Купалу.

Каля возера на балоцца вышэйшая мясьцінка, а на ёй рос куст папараці. Дык і згаварыліся Міхась і Марыля, Даніла і Ганулля разам дапільнаваць, калі, згодна лягендзе павінна расцьвісьці Папараць-Кветка, якая можа прыдацца чалавеку на рожныя рэчы. Здарылася гэтак як і павінна было здарыцца. Ніякае кветкі ніхто на папараці не дагледзеў, але-ж гэтакая ўвага Данілы да Ганулі, парадзіла ў яе разуменьні пэўнасьць, што і праўда Даніла кахае яе. Болей ужо ня было ніякага сумліву.

Даніла быў рад сваей першай перамозе.

І калі перад сьвятам расстаўшыся з Ганулькаю Даніла вяртаўся дамоў, дык здарылася яму быць сьведкаю вельмі цікавага зьявішча.

На ганку панскага палацу пан Скубіцкі, яго камердзінэр Бабулевіч і пан з суседнага маёнтку Чыж-Чыжацкі голасна гутарылі... Хоць і блізка паноў бываў Даніла, але-ж не заўважыў ніколі, каб паны гэтак гаварылі, быццам сварацца. А гаварылі яны аб пагрозах, якія віСяць над імі і якія натвораць ім бедаў і ліха. Кожнае слова Даніла лавіў і глытаў... Гаварылі паны, што нямінуча зямлю адбярэ у іх сялянства і што парабкі якія цяпер служаць і працуюць у іх будуць самі сабе гаспадарамі.

Добрае слова, хоць нічога ня дасьць, але-ж прыемна слухаць і хоць гаварыў гэта пан Скубіцкі не жадаючы Данілу дабра, але-ж неяк выходзіла яно на дабро, дык радаваўся Даніла дзіцячаю радасьцю. Радаваўся, што злавіў надзею быць сам сабе гаспадаром, а яго каханая Ганулька будзе пры ім—гаспадыняю.

Надзея папхне да чыну, а чын зьдзейсьніць надзейныя жаданьні.

А на заўтра аб панскіх трывогах ужо ўсе ведалі ў маёнтку і зарадзілася думка з таго часу ў радзецкіх парабкоў, што настане час, прыдзе пара, калі яны вырвуць панскае вока і кінуць у балота, каб ня быць парабкамі.

Бо, панскае вока, як волава: яго ўзрок цяжка, сумна і сорамна насіць.

Няхай жыве з ілюзарычнымі чарамі Папараць-Кветка, якая навучыла Даніла, а цераз яго і ўсіх парабкоў у Радзецку, што шчасьця ніхто нікому ня даў і не дае, што шчасьце можна стварыць барацьбою і змаганьнем за свае месца пад сонцам...

Скарга.

